 нумары: НАША АКЦЫЯ КРЫПТАНІМ „В“  КАБ БАЧЫЦЬ БЕЛАРУСКУЮ ТЭЛЕВІЗІЮ  10 МІНУТ


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 17 (530) Год XI — 24 КРАСАВІКА 1966 г. — Цана 60 гр.


*НОВЫЯ ВЕРШЫ*

## Балада аб нашэсцях

*Між Дняпром і крыкам жураўліным,*
*Неўздалёк ад дымнага сяла*
*Ў прадзедам пакінутай хаціне*
*З козлікам Аленачка жыла.*
*Травы залацістыя дымелі,*
*Ноччу поўз вугор гарох крануць;*
*Як страла ў кальчугу, стронг на мелях*
*Упіваўся ў рабізну.*
*І аднойчы, як страла ў кальчугу,*
*Рать аднекуль з-за лясоў прыйшла,*
*Каб усё забраць: людзей ад плуга,*
*Хлеб і дым — ад дымнага сяла.*
*Чорныя, рагатыя, як здані,*
*Ў золаце й каменнях, бы ў агні.*
*Сэрцы ў іх забылі аб каханні,*
*Рукі — аб звычайнай дабрыні.*
*Іх багі удзячнасці чакалі,*
*І Аленку, — ў дар вадзяніку, —*
*Вывелі з хаціны і звязалі,*
*І на дзідах кінулі ў раку.*
*На слядах палонных — рос алмазы,*
*І на месцы, дзе вяршыўся пір —*
*Дым — ад летуценняў, прах — ад казак,*
*Струны абгарэлыя — ад лір.*
*Сонца ўніз схілялася суровае,*
*А калі далей пайшлі палкі, —*
*Белы козлік выбраўся са сховаў*
*І — чуйдух! — пацокаў да ракі.*
*І замэкаў, застагнаў, заплакаў,*
*Высунуўшы шэры язычок:*

.....................

*«Пашкадуй, Аленачка, сястрыца,*
*Выйдзі да мяне на беражок».*

*УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ*

# ДЛЯ ЛЮДЗЕЙ ВЁСКІ

Свайго часу адзін з прэзасаў сказаў, што ГС — гэта «піён» вясковага гандлю і толькі гандлем будзе займацца. Безумоўна, — дадаў, — паколькі гэта спулдзельчая ўстанова будзем праводзіць курсы кравецкія ці гатавання. Але асноўная справа — гэта сетка крам на вёсцы і кантрактацыя жывёлагадоўлі.

Ад таго часу многа змянілася. ГС-ы пачалі займацца многа шырэйшым веерам спраў. Адышоў з працы былы мой размоўца. Не, не таму, што наброіў. Проста жыццё і новыя заданні патрабавалі новага чалавека, якога думкі і планы ў адносінах да такой інстытуцыі як ПЗГС і ГС многа шырэйшыя, такія, якіх патрабуе сучаснасць вёскі.

Адышоў той час, калі трэба было высылаць на вёску прапагатараў кантрактацыі жывёлагадоўлі, адыйдзе і час на агітатараў кантрактацыі збожжавых раслін. Вёска патрабуе штораз больш фаховай дапамогі. Але сучасная вёска — гэта не толькі кантрактацыі. Людзі, якія кіруюць вясковым гандлем, здалі сабе справу з таго, колькі на вёску прадалі радыёпрыёмнікаў, тэлевізараў, халадзільнікаў, швейных машын, матацыклаў і тп., што вясковыя жанчыны носяць такія ж як у горадзе панчохі, хочуць мець модную прычоску. А ў сувязі з гэтым паявілася запатрабаванне на стварэнне пунктаў паслуг гэтага характару.

— Яшчэ справа не найлепш укладаецца з гэтым, — гаворыць Вера Бароўская, адказны працаўнік за гэтую галіну працы ў Гайнаўскім ПЗГС. — Не ўсюды добра, таму што не ўсе ГС здаюць сабе справу з агромнай патрэбы арганізавання ў сваім асяроддзі такога тыпу паслуг. Аблягчэнне працы гаспадара павінна ісці раўнамерна ва ўсіх галінах яго жыцця. Вось, для прыкладу, прывяду Белавежу. Ёсць тут больш як сто тэлевізараў, матацыклы і іншыя хатнія прылады. Ёсць дом дзіцяці, інтэрнат і іншыя ўстановы, якія патрабуюць сціраць многа бялізны. Ужо даўно тут паўстала запатрабаванне на арганізацыю сеткі паслуг. Дык вось мы хочам у Белавежы перад усім пабудаваць механічную пральню. Дагаварыліся з ЗУРіТ і АРГЕД, каб іх спецыялісты прыязджалі ў арганізаваныя намі пункты і вялі рамонт тэлевізараў, радыёпрыёмнікаў і іншага хатняга абсталявання. Памяшканне і патрэбныя прылады купяць нашыя ГС і ПЗГС. Справа ў тым, каб гаспадар не цягнуўся за 20 — 30 кіламетраў з радыё ці тэлевізарам у Гайнаўку і траціў час.

Асаблівую ўвагу звяртаецца на працу і патрэбы жанчын і гэта не таму, што пані Вера сама жанчына, проста неяк хутчэй трэба вызваліць вясковую жанчыну з існуючай яшчэ адсталасці. Для гэтага арганізуюцца пункты «Сучаснай гаспадыні». Адсюль можна пазычыць сціральныя машыны, пыласосы, шаткаўніцы і іншыя. Тут арганізуюцца розныя парады. Напрыклад, хтосьці мае швейную машыну, а не з'яўляецца краўцом. Тады прыходзіць да такога пункту, дзе працуе прафесіянальны кравец, які параіць, як шыць, а нават можа скроіць і за пэўнай аплатай пашыць патрэбнае адзенне. У некаторых пунктах, адзін раз у тыдзень, прыймаецца гардэроб, які сваім самаходам ГС адвозіць у Беласток у пральню і многа, многа іншых.

У гэтым напрамку вядуцца паважныя інвестыцыі. Напрыклад, у Нараўцы Гайнаўскі ПЗГС арганізаваў слёсарска - кавальскую рамонтную майстэрню. Тут праводзіцца рамонт сельскагаспадарчых машын, матацыклаў, адбываецца вулканізацыя. Гэтая ж майстэрня каштавала 518 тысяч зл. Гайнаўскі ПЗГС плануе далейшыя інвестыцыі гэтага тыпу. Вера Бароўская не вельмі шырока аб гэтым гаворыць, таму што цяжка яшчэ аб многіх справах дэфінітыўна сказаць. Гэта ж усё новае, нявыпрабаванае, няведама якія будзе мець поспехі.

Але ўжо ёсць пэўныя цяжкасці. Усе разумеем, што цырульня на вёсцы не заўсёды будзе мець пад дастаткам кліентаў. А калі так, дык як утрымоўваць тут цырульніка? Пані Вера гаворыць, што, між іншым, такая сітуацыя заіснавала ў самой Белавежы. Але і на гэта знойдзецца выхад. Проста **некаторыя паслугі трэба будзе спалучаць.** Напрыклад «фрызыерка» можа адначасова весці пункт пачынкі панчох.

— Я ўпэўнена, што ўсе цяжкасці пераадолеем, — гаворыць Вера Бароўская. —Знойдзем шырэйшае зразуменне і ў некаторых ГРН, якія не заўсёды нам даюць памяшканні, а больш усяго сярод нашых ГС-аў, ну і самых людзей нашай вёскі.

**А. Карпюк**

*У ПОШУКАХ НЕСПАКОЙНЫХ*

# БЕЛАРУСКІ ВАЯВОДСКІ АГЛЯД

Штогоднім звычаем Беларускае таварыства сарганізавала ваяводскі агляд гурткоў, якія маюць рэпертуар на беларускай мове. Прыехала 4 гурткі, выдзеленыя на павятовых аглядах: *Крушынянскі, Ляшукоўскі, Мілейчыцкі і Паўлаўскі.* Ставілі п'есы: «Боты» (Крушыняны), «Муж разява» і «Пярэстая Красуля» (Ляшукі), «Гарадскія госці» (Мілейчыцы), «Валодзін гальштук» (Паўлы).

Узровень аматараў быў высокі. Горш з дысцыплінай. Публічна не скажу хто, але адзін з гурткоў, які меў выступіць першым, разбегся пасля прыезду па вялікім Беластоку. Пасля гадзіны спазнення хлопцы прыйшлі на пахмеллі і ў выніку сапсавалі добра падрыхтаванае сваё выступленне.

(Тут хачу пару слоў на пытанне: ці гарэлка добра служыць аматарскаму руху? Існуе шырокае перакананне, што чарка дадае смеласці, бадзёрасці, паляпшае памяць. Адзін з удзельнікаў стараўся пераканаць мяне, быццам навукова даказана, што выпіўшы, лепш усё прыпамінаеш. Усё гэта абсалютная няпраўда. І бывае якраз наадварот. Не гаворачы аб тым, што п'янства пярэчыць падставовай аснове аматарскага мастацкага руху: пашырэнню культурнасці эстэтыкі і добрага выхавання).

Фрэквенцыя ў зале агляду падвяла, у чым вініць трэба ўжо арганізацыю: кепская пара (Вербніца) і брак якой-небудзь рэкламы агляду.

Здзівіла мяне адсутнасць на аглядзе гуртка з *Бялявіч.* У мінулым годзе ён здабыў першае месца. Аб ім пачалася голасна і добра гаварыцца. Нават у з'ездаўскім нумары «Нівы» аб ім і яго людзях пісалася. На павятовым аглядзе гурток здабыў, як весць нясе, прым, а на ваяводскім не мелі мы прыемнасці яго ўбачыць. Цікава, чаму так лёгка ўступаюць з поля бітвы амбітныя і добрыя белявіцкія людзі?

З сыпкіх пяскоў Сакольшчыны надзеяй тхнулі *Крушыняны,* якія бліснулі талентам і добрай беларускай вымовай. Падкрэсліваю гэты факт, бо Сакольшчына рэдка цешыць нас культурнымі ўзрывамі ў беларускім духу. Крушыняны парвалі стагнацыю. Няхай не перастануць, няхай падцягнуць іншых.

(Працяг на стар. 5)



Вясна. Зямля чакае на чалавека. — Фота В. Рудчык




ПЕРАКЛАДЫ ПОЛЬСКІХ СУЧАСНЫХ ПАЭТАЎ ■ ЛІТАРАТУРНЫ ДЭБЮТ ■ ПРАЦЯГ ЛІТАРАТУРНАЙ ДЫСКУСІІ ■ БЕЛАРУС — САКРАТАРОМ РУСКАЙ СЕКЦЫІ І ІНТЭРНАЦЫЯНАЛА ■ ПРА МІЛЕЙЧЫЦКІ ДРАМАТЫЧНЫ КАЛЕКТЫЎ ■ УСПАМІНЫ БЫЛЫХ ПАЛІТВЯЗНЯЎ САНАЦЫЙНЫХ ТУРМАЎ.

## Наша акцыя

# КРЫПТАНІМ „В"

*Кленікі залічваюцца да самых вялікіх вёсак Гайнаўшчыны. Яшчэ перад вайною праведзена тут камасацыя, і таму шмат кленікаўцаў пабудавалася на прыдзеленых ім палетках.*

*Зараз у вёсцы і на калёніях жыве 1059 чалавек.*

# КЛЕНІКІ



**Кленікі. Клябаншчына.**

Стары настаўнік Андрэй Тапалеўскі цікавіцца гісторыяй сваіх родных Кленік. Гісторыю гэтай вялізнай вёскі выводзіць ён са старых часоў, калі яшчэ Кіеўская Русь прымала хрысціянскую веру. Тады праўдападобна ў аколіцы цяперашняга недалёкага мястэчка Нарва над ракою Нарва манахі з Кіева хрысцілі ў шырокай вадзе мясцовых людзей. Пахрысціўшы ўсіх, манахі пасяліліся на месцы цяперашніх Кленік, дзе пабудавалі свае пустэльніцкія манашскія келлі — дапамагалі людзям у розных справах, вучылі іх гаспадаркі. Паблізу іх келляў пачалі забудоўвацца людзі, і гэтае месца з манашскімі келлямі назвалі — Келейнікі. Прамінулі доўгія вякі, і па манахах не засталося следу, а мясцовасць пачалі называць зручней: Клейнікі або Кленікі (на афіцыяльных пячатках таксама па-рознаму напісана назва вёскі).

Людзі гавораць — Кленікі. Сярэдзіна вёскі называецца — Клябаншчына (ад плебаніі свяшчэнніка). Канец вёскі называецца — Канец, а другі канец — пачынаючы ад скрыжавання дарог да Гародчына і Чыжоў — называецца: Загаць. Гэту Загаць калісьці раздзяляла ад вёскі вялікая «баюра» (азерца). Відаць, была гаць для праходу. Але «баюра» даўно высахла і даўно ўжо праходзіць праз Кленікі брукаваная дарога Бельск — Нарва.

Здаўных-даўна не было згоды паміж жыхарамі паасобных частак вёскі. Даходзіла нават да цяжкіх біятык. Асабліва гэтая нязгода адчувалася ў час танцаў. Здаралася, што ў Кленіках аж тры забавы. Яшчэ да нядаўна кожная «дзяльніца» вёскі мела сваю танцавальную пляцоўку. Зараз вёска, так сказаць, адміністрацыйна падзелена на дзве часткі. Ёсць тут два солтысы, якія спаборнічаюць паміж сабою. У апошнія гады стала сітуацыя наладжвацца. Многа ў гэтым зрабіла школа.

На пачатку нашага веку Кленікам пашанцавала мець энергічнага свяшчэнніка, нейкага Івана Хлябцэвіча, родам з-пад Слоніма. З расказаў кленіцкіх людзей можна меркаваць, што быў гэта чалавек дзелавога характару. За прычынаю яго ды ягоных сыноў у 1907 годзе створана ў Кленіках публічную бібліятэку (кленіцкая бібліятэка можа святкаваць у будучым годзе сваё шасцідзесяцігоддзе).

Раней, недзе ў 1905 годзе Хлябцэвіч перабудаваў сваю лазню на царкоўна-прыхадское жаночае вучылішча для кленіцкіх дзяўчынят. Вучыла тут яго дачка. Такія школы — рэдкасць.

У 1908 годзе кленіцкае аднакласнае народнае вучылішча пераўтворана ў двухкласнае. Была гэта школа падобная як бы да цяперашніх падставовых школ. Свяшчэннік Іван Хлябцэвіч намагаўся арганізаваць малачарню ў Кленіках, гаварыў з амбоны аб карысці малачарні. Аднак да арганізацыі малачарні не дайшло.

### НОВЫЯ ПРАБЛЕМЫ КЛЕНІЦКАГА ПОБЫТУ

У будынку былога народнага вучылішча жыве цяпер фельчар. Зрэшты, тут знаходзілася сучасная кленіцкая сямікласная школа, якая год таму назад выбралася ў новы, прасторны будынак пабудаваны недзе на пагранiччы Клябаншчыны і Канца. Фельчар — Яўгеній Краўчук — вечна заняты чалавек. Людзі нясуць яму свае хваробы, апрача хворых зубоў — з імі трэба ехаць аж у Гайнаўку. Праўда, пару тыдняў таму назад паявілася нарэшце дэнтыстка ў недалёкай Нарве. Калісьці заехаў у Кленікі дэнтыстычны амбуланс. людзі збегліся да яго бы па селядцы на Каляду. У Кленіках і навакольных вёсках амаль дзевяноста працэнтаў дзяцей і моладзі мае зубы хворыя перагноем! Смутная гэта праўда... Ад фельчара даведаўся я, што тут, так сказаць, папулярнай хваробай была жаўтачка. Гэту эпідэмію жаўтачкі ўдалося ўгамаваць, але невядома, на як доўга?! У Кленіках і аколіцы няма здаровай, добрай вады — калодзежы тут плыткія, мутнавыя. Улады намераны пабудаваць дзве глыбінныя студні (артэзіянскія) і маюць надзею, што гэтым самым заахвоцяць мясцовы люд будаваць іменна такія студні. Жаўтачка шырыцца там, дзе нядобрая вада і бруд; жаўтачка — заразная хвароба. У 1964 годзе хварэла жаўтачкаю 14 асоб, у 1965 годзе хварэла ўжо 22 асобы, а ў гэтым годзе пакуль што было толькі шэсць выпадкаў жаўтачкі, г. зн. 2 асобы хварэла з Кленік, 2 — з Сапава і 2 — з Козлікаў. У папярэднія гады большасць хворых было з Тынявіч. У Тынявічах нізкае месца, надзвычай плыткая вада ў калодзежах — і небяспечная. Дэзінфекцыя тынявіцкіх хат паўстрымала паход жаўтачкі, але гэта нічога не вырашае. Патрэбны глыбокія калодзежы, артэзіянскія калодзежы — патрэбна добрая лазня. Нічога не сыплецца маннаю з неба, трэба самім тынявіцкім людзям узяцца за сваю справу — узяцца будаваць калодзежы, лазню.

Меў свае хворабы і мясцовы кленіцкі сельскагаспадарчы гурток — проста, «сухоты на грошы», вечны дэфіцыт. Прычыну гэтай хваробы выяснілі кленіцкія хлопцы, якія склалі такую спеўку:

У «кулку» новы статут,  
калі літар у кішэні,  
то і трактар тут!..

Трактараў хіба з чатыры штукі, і яшчэ два будзе — а дастаць іх цяжка было, трэба было ўжываць спосабу «з літрам у кішэні». Цяпер ёсць надзея, што спеўка кленіцкіх хлопцаў хутка прападзе, бо ў гуртку выбрана новае праўленне і ўводзіцца парадак.

У Кленіках шырыцца тэхніка, механізацыя, от Пракапюкоў млын — таксама механічны і электрычны. Калісьці на кленіцкіх пагорках стаялі ветракі — няма іх ужо даўно.



**Кленіцкая школа.**



**С. Карпінскі манежам рэжа сечку.**

### КЛЕНІЦКАЯ СЛАВА

Слава Кленікаў у спорце. Кленіцкія спартсмены выйшлі на агульнаваяводскую арэну: рыхтуюцца да ваяводскай спартакіяды ў Алецку, якая адбудзецца ў месяцы маі. Там будуць прэзентаваць Гайнаўскі павет.

Мясцовы ЛьЗС налічвае каля 45 членаў. Ёсць секцыі ручнога мяча, валейболу, шахматнай гульні, лёгкай атлетыкі, сталовага тэніса. У мінулым годзе ў павятовых шахматных розыгрышах у Гайнаўцы кленіцкія шахматысты здабылі першае месца сярод дзяўчат — Марыся Асіпюк; сярод мужчын — Аляксандр Закройшчык.

Кленіцкія дзяўчаты з секцыі ручнога мяча ўвайшлі ў акруговую лігу.

### З ВІЗІТАМ У ГРН

Кленікі далі шмат кадры ў розныя ўстановы не толькі Беласточчыны. А вось зараз у вёсцы няма людзей, якім можна было б даверыць тую ці іншую функцыю. У ГРН на 6 штатных працаўнікоў толькі ад нядаўна працуе адна дзяўчына з Кленік. Настаўнікі немясцовыя, начальнік пошты і лекар таксама.

— У Кленіках яшчэ сярэдневякоўе, — гаворыць старшыня ГРН Сяргей Каліноўскі. які даязджае сюды да працы з Курашава.

Вельмі павольна змяняюцца тут навыкі і звычаі ў гаспадараванні. Цяжка загітаваць сялян на карысную ім кантрактацыю збожжа. Ёсць 22 гаспадары, якія нічога не плацяць дзяржаве, і іхнія гаспадаркі трэба адчужаць — «вывлашчаць».

У вёсцы яшчэ мала матацыклаў (толькі 6), няма ў гаспадароў тэлевізараў. Не шануецца тут грамадскае дабро. Паспулдзельчы кароўнік так знішчылі сяляне, што нават пабілі азбестовае пакрыцце і павымалі з рамамі вокны.

### НОВАЕ

Вельмі выгадна жыхарам Кленік стала з таго часу, калі праз вёску пачалі ездзіць ПКС-ы. Штодзённа ў адзін і другі бакі праязджае 8 аўтобусаў. Вялікімі здарэннямі ў жыцці вёскі былі: адкрыццё пункта аховы здароўя, ветэрынарнага пункта, пабудова крамы, школы. злеўні малака і арганізаванне сельскагаспадарчага гуртка.

### ШТО ЯДУЦЬ КЛЕНІКІ?

Найбольш папулярная на вёсцы свініна, найменш — кураціна.

### СВАЕ СВЯТЫ

Шмат святаў, якія святкуюцца ў Кленіках, устанавілі жыхары гэтай вёскі.

### НЯМА РАЗВОДАЎ

У Кленіках не прыняты разводы. Хоць муж з жонкаю жывуць, як кот з сабакаю, хоць б'юцца і па цэлых тыднях не гавораць, але не разыходзяцца. Праўда было адно выключэнне, калі жонка пакінула свайго мужа. але не зычым нікому толькі громаў, колькі атрымала (і атрымлівае) яна ад аднавяскоўцаў.

Люстравалі:

**Міхась Хмялеўскі**  
**і Сакрат Яновіч**

*НАША АКЦЫЯ*

## Крыптанім „В"

*Пачынаем новую акцыю. Гэтым разам бярэм на варштат вёску. Хочам пазнаць яе глыбей і адначасова паказаць яе шырэй нашаму чытачу.*

*Ён жа, у асноўным, паходзіць з вёскі, ведае яе — могуць нам сказаць. Ці варта тады рабіць толькі захаду? Варта! Хоць бы толькі таму, што нашы (і чытача) веды аб вёсцы часта аказваюцца далёка няпоўнымі. Дастаткова паставіць пытанне «якая гісторыя тваёй вёскі?», а з адказамі на яго будуць вялікія клопаты. А што гаварыць ужо пра суседнія вёскі. Калі да гэтага дадаць традыцыі, звычаі, людзей (шматлікія і розныя), дык стане перад намі пытанне значных намераў.*

*Але не толькі на гэты бок ведаў аб вёсцы хочам сканцэнтраваць сваю ўвагу. Цікавіць нас, перш за ўсё, цяперашняя вёска, яе цяперашняе жыццё — быццё, яе справы і людзі. Мінулае павінна тут толькі памагчы зразумець сённяшняе. Інакш: наша акцыя, якую зашыфравалі мы пад крыптанімам «В» (вёска), носіць пазнавальны характар, павінна служыць дапамогай у знаёмстве з родным краем.*

*І так, якая ты, наша вёска? Першыя скромныя спробы адказаць на гэтае пытанне даюць нашыя рэдакцыйныя люстратары. Запрашаем да ўдзелу ў акцыі ўсіх нашых чытачоў. Дасылайце свае заўвагі, прапановы і матэрыял. Наступным разам люструем Трасцянку.*



# Ленін у Польшчы

Гэты манументальны па зместу і форме фільм увайшоў на экраны краіны. Зрабілі супольна: Польская кінастудыя з «Масфільмам». Рэжысіраваў **Сяргей Юткевіч.** У ролі Леніна **Максім Штраух.**

Фільм біяграфічны, паказвае перажыванні Леніна ў Польшчы, калі правадыр рэвалюцыі ў Пароніне быў на ссылцы.

Шырокі экран і гэта дае магутныя эфекты.

Вось карціна: на ўсю шырыню экрана Ленін — ідзе, вакол дыміць зямля, бушуюць вятры, а Ён ідзе з паднятай бародкай — тыповая ленінская постаць (Штраух вельмі добра іграе Леніна).

Вось карціна: на ўсю шырыню экрана натоўп салдатаў са штыкамі. Бягуць, твары поўныя напружання, злосці і... сілы.

Вось карціна: на ўсю шырыню экрана над забітым невядомым салдатам стаіць Ленін (на здымку).

У фільме «Ленін у Польшчы» няма дыялогу. Каментарый — урыўкі з прац Леніна чытае дыктар. Увесь час адзін больш-менш манатонны голас і якраз гэта выклікае небывалыя пачуцці. Фільм зроблены так, што рэжысёрскія сцэны пераплятаюцца з дакументальнымі.

«Ленін у Польшчы» — добры падарунак Ленінскім дням і гледачам. (вл)

# Лічыльнік у мазгу

Што нейкі час паяўляюцца людзі з фенаменальнымі здольнасцямі да рахункаў. Нядаўна аб такім феномене паведаміла савецкая прэса. Суперздольным чалавекам з'яўляецца 15-цігадовая вучаніца дзевятага класа адной са школ Тбілісі. Лейла Джанджагаева сумее ў вокамгненні рашаць арыфметычныя аперацыі, і што больш цікава, чытаючы які-небудзь тэкст, можа зусім дакладна сказаць, колькі літар меў гэты тэкст. Незалежна ад таго, ці было іх 20, ці 200. Мае яна нешта ў родзе «лічыльніка», які дзейнічае аўтаматычна пры чытанні тэксту. Адначасова Лейла не з'яўляецца выдатніцай па матэматыцы Часта здараецца, што «лапае» яна па гэтаму прадмету двойкі, і з матэматыкай мае многа клопатаў. Значыць, рахунковыя здольнасці нямнога маюць супольнага з матэматычнымі здольнасцямі. Вучоныя з Інстытута псіхалогіі вядуць доследы, якія выясняць механізм гэтай з'явы. (ак)

# СУДАНСКІ ШЛЮБ

Цырымонія заручын і шлюбу ў Судане выглядае больш-менш гэтаксама, як і ў іншых арабскіх краінах дзе самыя маладыя маюць найменшы голас. Малады чалавек не прапануе дзяўчыне шлюб асабіста, бо згодна з традыцыяй гэта важная прапанова належыць да яго маці, якая дагаворваецца ў гэтай справе з маці выбранай хлопцам дзяўчыны. Можа здарыцца, што будучая нявестка не спадабаецца маці. Тады далікатным спосабам паказвае яна сваю неахвоту, не п'ючы кавы прынесенай гэтай дзяўчынай — і да шлюбу не даходзіць. Але гэта здараецца даволі рэдка. Звычайна, пасля таго, як абедзве маці дойдуць да паразумлення, трэба афіцыйна пацвердзіць заручыны і спісаць адпаведны дакумент - дагавор. Але гэта робяць ужо бацькі маладой пары. У дакуменце гэтым устанаўліваецца суму, якую трэба, каб нарачоны дзяўчыны ўплаціў яе бацьку. Дзяўчына атрымоўвае таксама ад нарачонага традыцыйны падарунак залатой біжутэрыі.

Ад гэтага часу маці нарачонай пачынае рыхтаваць яе да будучага жыцця, павучае яе, як мае жыць з мужам, як павінна адносіцца да яго, а таксама да яго сваякоў. Маці вучыць дачку спецыяльнага танца, які выканае яна перад нарачоным у дзень шлюбу. Маладая павінна быць таксама адпаведна прычэсана на шлюб. Прычоска гэта робіцца з мноства цянютка сплеценых кос. Каб зрабіць такую прычоску патрэбна тыдзень часу, і робіць яе мясцовая спецыялістка ад такіх прычосак, якая праз тыдзень часу жыве ў хаце нарачонай, як госць.

У астатні вечар перад шлюбам адбываецца ўрачыстасць з танцамі. Бабы, якія зышліся з цэлай аколіцы, каб наведаць шчаслівую нарачоную, націраюць сабе рукі чырвонай хеннай і стаюць у доўгую шарэнгу танцаваць. Ашаламляюча гудзіць бубен, якога скуру падаграваюць над агнём, каб быў больш гучны.

Назаўтра — вяселле. Для запрошаных гасцей рыхтуюцца розныя прысмакі: бараніну з рысам, печанае птаства, дактылі, апельсіны і халодныя напіткі прыпраўленыя цынамонам і мёдам. Госці ві··цуюць маладога, зычаць яму шчасця, гавораць квяцістым стылем, а менш вымоўныя госці кажуць толькі традыцыйнае пажаданне: «Калі Алах захоча, не забракуе вам багацця і патомства».

Месцы займаюць па строга ўстаноўленаму парадку. Дастойныя старцы ў белых уборах, у турбанах на галовах і з тоўстымі кульбакамі ў руках рассядаюцца выгодна на лавах устаўленых на панадворку маладога; маладыя госці стаяць насупраць іх, далей відаць чорныя сукні і шалі старых жанчын, а за імі натоўп дзяўчат у доўгіх рознаколерных сукенках.

Калі збяруцца ўсе госці, пан малады цырымонна рассаджвае іх за сталом. Але жанчыны не сядаюць разам з мужчынамі, няма тут таксама і шчаслівай нарачонай. Не паявіцца яна і тады, калі падвяселеныя вясельнікі пачнуць спяваць і танцаваць пад музыку аглушальнага бубна і пісклівых дудак. Мужчыны танцуюць асобна, жанчыны асобна. Карагод мужчын і карагод жанчын часамі набліжаецца да сябе то зноў аддаляецца грацыёзным крокам. Усе танцуюць дапазна і ніхто не звяртае асаблівай увагі на тое, што каля поўначы пан малады пакідае гасцей і кіруецца да свайго дома, дзе чакае яго нарачоная. Найбольш шанаваныя ў вёсцы жанчыны збіраюцца пад дзвярыма шлюбнай спальні, каб рана аб'явіць гасцям, што шлюб адбыўся. Вясельнікі весяляцца і толькі дзяўчаты, пэўна, думаюць аб тым, калі надыдзе і іх ноч шлюбу, якая будзе пачаткам новага і цяжкага жыцця. (А-ся)

## Карысна ведаць

Цырату на кухонным стале мыем толькі пры дапамозе губкі, цёплай мыльнай вады і спалоскваем чыстаю вадою, а потым выціраем насуха.

*

Гумалеум, якім пакрыта падлога ў кухні ці ў сенях, трэба перацерці штодзённа ільняною анучаю, якую лёгка звільготніваем у вадзе з невялікаю колькасцю шкіпінару (terpentyny), а потым выцерці да глянсу сукном.

*

Шаўковыя хусткі сціраем у цёплым растворы парашку «Іхі - 65», некалькі разоў спалоскваем у цёплай чыстай вадзе, закручваем у ручнік, каб адціснуць ваду, уцюжым гарачым уцюгом.



Так цэлы тыдзень робіцца шлюбная прычоска.



Танец маладой.

**• аляксей карпюк •**

# ПУШЧАНСКАЯ АДЫСЕЯ

**Вечарам Кірыліха завяла бацьку туды, дзе пад кустом лазы дрыжала ўстрывожаная маці.**

**— Ну, партызанка, як маешся? — зухавата кінуў ён.**

**— Ты яшчэ смяешся? Ну цябе к чорту, стары дурань! Кінуў тут, у балоце, адну, сам бадзяешся недзе, а прыйшоў, то яшчэ з нейкімі фокусамі!..**

**— Жартуеш? Як толькі стала цямнець, адразу я і папёрся сюды!.. Нічо-ога, не перажывай, мы цяпер з табой такое тут закруцім супроць немцаў, што сам Гітлер будзе ў нас прасіцца!**

**— О, «закру-уцім», «прасі-іцца», — перакрывіла яна. Ад бяссілля перад усім, што адбывалася вакол, яна ўпала ў істэрыку. — Ы-ы-ы! — заплакала. — Даіграўся, дык хоць бы не малоў языком таго, чаго не трэба, ты ж ужо стары чалавек!.. Адубянела ўся, як лёд, а яму смешачкі...**

**Бацька даўно навучыўся яе разумець і цяпер не крыўдзіўся, цярпліва чакаў, пакуль не супакоіцца.**

**— Мары-ылька, ты чаго? А як людзі гадамі жывуць гэтак? А як тыя, чые косці ў зямлі ляжаць? Думаеш, ім лепш? А табе што? Го-о, галубка, каб адно не было**

224

**горай! Заўтра сонца зноў узыдзе, настане дзень, цяпло, там і сына знойдзем. Ён табе самае ганаровае месца выдзеліць у атрадзе!**

**— Вы-ыдзеліць... — памякчэла.**

**— Вядо-ома! Ведаеш, якая ты ў іх будзеш пачотная? Го-о! А цяпер накрыемся і спаць будзем...**

**Стары з мяшка вывалак пару вайсковых коўдраў, адзенне, вымясціў пасцель, яны ляглі.**

**Раніцой абладаваны бацька павёў яе ў Каралёўскі лес. Прыбылі туды пасля абеду, толькі дзе шукаць партызан? Цяпер не бяда, шукай хоць тыдзень, час ёсць. Трэба выбраць толькі месца для стаянкі.**

**Бацька вырашыў, што мы будзем трымацца блізка вады. Якраз недалёка цякла рэчачка Шындзялка, ля яе рос густы беразнячок, а сярод бярозак — куст арэшніку. Бацька абламаў галінку на дрэве, на сучок павесіў карабін, скінуў на траву торбу, узяўся за працу. Нарэзаў ядлоўчыкаў, наўтыкаў зводдаль арэшніку. Панагінаў ляшчыны, прымацаваў вярхі да зямлі, — атрымаўся жывы будан, а глянь збоку — ляшчына як ляшчына! Стары задумаўся над торбамі з харчамі. Пакласці ў кусты? Мышы, здзічэлыя сабакі, лісіцы расцягнуць! І ён нагнуў адну бярозку, прывязаў да вярха торбу, нагнуў другую і дрэвы адпусціў. Торбы зніклі ў густых кронах з маладымі клейкімі лісточкамі. Залез пад арэшнік, узяўся раскладваць пасцель.**

**А тым часам маці нацягнула святочную сукенку, прычасалася, завязала на тоўсты вузел каштанавыя косы. Адышлася, сарвала пару травінак, паднесла да носа, задумалася.**

225

**Некаторы скажа аб сваёй маці: «Яна была простая, скромная жанчына...» Не вельмі я ў гэта веру! Кожнаму чалавеку яго маці здаецца не простай. Незвычайнай здаецца і мне мая маці. Не ведаю больш прыгожай жанчыны! Мая мама не знала ніякіх бюстгальтараў, але грудзі ў яе былі высокія, паходка лёгкая, голас меладычны і ніколі не мяняўся. Яна нават цяпер, у сорак год, не выглядала на пажылую замучаную сялянку, у якой дарослыя два сыны, а мела выгляд здаровай прыгажуні - маладзіцы. Скура на твары і шыі паружавела, вочы набралі таго цёмна - сіняга колеру, які мне запамятаўся з дзяцінства. Аднак у яе душы цяпер адбываўся пераварот. Яна не адчувала паху травінак, знаходзілася далёка ад таго, што рабіў муж.**

**Нешта падобнае маці перажывала ўжо, калі выходзіла замуж. Тады давялося ёй раптоўна развітацца з цяплом матчынага дома, уваходзіць у чужы свет і парадкі. Аднак тады яна была маладая, закладала сваё гняздо, дапамагаў інстынкт мацярынства. Пачалі расці яе дзеці. Спачатку яны былі падуладныя. Потым у іх сталі нараджацца свае ідэі, якія станавіліся і яе ідэямі. На жаль, маці не канчала ніякіх школ. У меру пазнання свету кола інтарэсаў дзяцей расшыралася, яна непрыкметна пачала адставаць, пакуль паміж ёю і сынамі не ўзнікла цэлая адлегласць. Уласныя вуглы, клопаты і прывычны распарадак дня не дазваляў гэтага ёй бачыць, агледзелася яна толькі цяпер. Другі раз рушыўся ўклад яе жыцця, аднак зараз ёй было цяжэй. Маці смутна адчувала, што робіцца як бы непатрэбнай і лішняй на свеце і ніхто ёй ужо не дапаможа. А праз гэтыя думкі мучыла падспудная трыво-**

226

# ТРЫБУНА чытачоў

## У гонар 1000-годдзя

Гурток БГКТ у Паўлах, Бельскага павета, супольна з іншымі арганізацыямі, а асабліва з Саюзам вясковай моладзі апрацавалі праграму святкавання Тысячагоддзя Польскай краіны. Праграма прадбачвае ўдзел моладзі ў грамадскіх чынах, а таксама канкрэтызуе заданні гуртка ў масава-палітычнай і культурна-асветнай працы. І так, напрыклад, гурток рыхтуе гутаркі на тэмы: «Тысячагоддзе краіны» і «Аб барацьбе польскага народа з нямецкім акупантам». Частка гэтых гутарак ужо адбылася. Вельмі ўрачыста будуць святкавацца дзяржаўныя святы і гадавіны важнейшых гістарычных падзей. І так, праграма прадбачвае арганізаванне вечарніц, акадэмій з нагоды 1-га Мая, Свята Адраджэння, 49 гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі, Дня перамогі, 556 гадавіны бітвы пад Грунвальдам, Дня Войска Польскага.

У галіне культурна-асветнай працы шырока выкарыстоўваецца ў гуртку тэлебачанне і фільмы. Будуць таксама арганізавацца сустрэчы з цікавымі людзьмі, партыйнымі дзеячамі, афіцэрамі народнага войска, працаўнікамі культуры. Першая сустрэча адбылася 27 сакавіка з камендантам павятовай міліцыі ў Бельску-Падляшскім — маёрам Чэславам Табарам, вядомым грамадскім і партыйным дзеячом у Бельскім павеце.

У гэтай сустрэчы апрача моладзі масавы ўдзел узялі пажылыя жыхары нашай вёскі. Камендант, таварыш Чэслаў Табар, запазнаў прысутных з працай міліцыі. Сустрэча прайшла вельмі прыемна. Прысутныя даведаліся многа цікавага. У бліжэйшым часе прадбачваецца сустрэча з рэдактарам «Газеты Беластоцкай», пісьменнікам А. Амільяновічам.

**С. Філіпюк**
Паўлы

## Грамадскі конкурс

2 красавіка ў святліцы ў Чыжах адбыўся грамадскі конкурс на тэму аховы здароўя. Удзельнікамі конкурсу былі жанчыны з Чыжоў і з іншых вёсак нашай грамады. Кожнай удзельніцы задалі па тры пытанні, на якія трэба было даць правільны адказ. Найлепш адказала на дадзеныя пытанні жыхарка Збуча, Каця Давідзюк, якая заняла першае месца. Другое месца заняла жыхарка Чыжоў — Станіслава Харкевіч. Каця Давідзюк будзе рэпрэзентаваць нашу грамаду на павятовым конкурсе ў Гайнаўцы. Кожная ўдзельніца конкурсу атрымала ўзнагароду пацяшэння.

*Янка Грамадскі*
Чыжы

### ДАПАМОЖАМ ГРАМАДСКА

Гурток Саюза вясковай моладзі ў Ляшуках (Гайнаўскі павет) у гонар 1000-годдзя Польскай дзяржавы забавязаўся між іншым грамадскім чынам дапамагчы будаваць магазіны ГС-у пры чыгуначным прыпынку ў Нараўцы, а таксама пры будове пункту механічнай апрацоўкі ільну ў сваёй вёсцы.

З нагоды І-га Мая арганізуем мы вечарыну, а таксама ўрачыста будзем адзначаць Дні кніжкі і прэсы.

**Яўгень Рэент**
Міхноўка

## Будуецца гараж

Сельскагаспадарчыя гурткі Гайнаўшчыны многа ўвагі прысвячаюць забеспячэнню машын ад атмасферных ападкаў.

На здымку бачым гараж, які будуецца з прэфабрыкаваных элементаў у сельскагаспадарчым гуртку ў Моры.

Тэкст і фота
**Мікола Пракапюк**
Гайнаўка

## Дарожны чын

**Краіна адзначае Тысячагоддзе Польскай дзяржавы і надыходзячы 1 Май шматлікімі грамадскімі чынамі. Такі чын адбыўся нядаўна на дарозе Дубічы Царкоўныя — Тафілаўцы. На работу прыйшло каля 200 чалавек, і было імі выкапана 1 км равоў паабапал дарогі.**

**Ініцыятарам чыну быў Прэзідыум ГРН у Дубічах Царкоўных. Кіраваў работамі Іван Майстровіч са сваім памочнікам Косцем Чыквінам.**

**Варта адзначыць і тое, што дарога Дубічы — Тафілаўцы лічылася самай дрэннай у аколіцы.**

**Мікалай Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя



## Цёмна—непрыемна

Ужо некалькі месяцаў у Кузаве не паляцца электрычныя лямпачкі на вуліцы. Увечары цёмна — хоць ты вочы выкалі. Некалькі разоў звярталіся мы да Грамадскай рады. Апошнім разам старшыня ГРН у Чаромусе гр. Міхась Маркевіч адказаў: — «Мы не будзем штомесяц ладзіць уключальніка. Як бацькі не дапільнуюць сваіх дзяцей, якія збіваюць электрычныя лямпачкі і ўключальнік, дык няхай ходзяць па цёмку». Гэта праўда. Але ніхто не намагаўся шукаць вінаватага. Ні солтыс, ні мясцовыя арганізацыі. А мо аднак грамадская рада ў Чаромусе пацікавілася б гэтай справай?

**Мацейка**
Кузава

## Пойдзем да Алёшкі

— Куды сёння пойдзеш вечарам?

— Пытаеш куды? А да Алёшкі.

А ці ведаеце, хто гэта Алёшка? Алёшка — гэта жанаты дзядзька, вялікі любіцель рускіх песень. Алёша, як паедзе ў Гайнаўку. Бельск ці Беласток, дык абавязкова мусіць купіць пласцінку з песнямі. Што забудзе купіць, а пласцінку заўсёды купіць.

Прыходзяць да яго жанатыя, а таксама хлопцы і слухаюць прыгожага рускага спеву. А там вечар так хутка міне, што не заўважыш і калі.

**Г. Мароз**
Стараберазова




### ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА

У гэтым годзе, а дакладней за некалькі месяцаў я ўжо кончу 7 клас пачатковай школы. Маю 15 год. На мінулыя коляды я пазнаёмілася з Віцем, які ўжо закончыў вайсковую службу. Праўда, з войска ён вярнуўся нядаўна, мінулай восенню. Ён часта да мяне заходзіць і гаворыць, што будзе на мяне 3 гады чакаць, аж скончу 18 год, а тады пажэнімся. Віця мне падабаецца, нават вельмі. Бацькі таксама не ведаюць, што рабіць, проста кажуць мне, каб рабіла так, як мне падабаецца. Бо я хацела б, Сэрцайка, ісці вучыцца далей. Вучуся вельмі добра, настаўнікі таксама хваляць мяне і намаўляюць ісці вучыцца. Але што зрабіць з Віцем? Ён кажа, што на гаспадарцы не патрэбна будзе мая навука, а таксама, што мо тады я яго не захачу. Віця не мае поўнай пачатковай школы.

Парай, Сэрцайка, што мне рабіць?

**Таіса**
з Бельскага павета

Дарагая Таіса!

Маючы 15 год ты не павінна нават думаць пра Віцю, тым больш, што ты здольная дзяўчына, і бацькі твае згаджаюцца на тваю далейшую навуку. Не можна марнаваць сваіх здольнасцей для таго, каб чакаць тры гады на тое, каб выйсці замуж. Зрабіла б тады вялікую жыццёвую памылку. Калі Віця можа пачакаць на цябе 3 гады, тады і можа больш. А за толькі год можа ўсё змяніцца, мо ён табе будзе ў далейшым падабацца, а мо і не будзе. Час пакажа сваё. Таму раю табе, Таіса, не пакідай навукі, вучыся.

Жадаю поспехаў

**Сэрцайка.**

---

**га: ці застаўся жывы ў лагеры яе меншы, ці не згніў ён там ужо даўно? Старэйшы вунь, побач, але ці выйдзе жывы з гэтай калатнечы? Яна абсалютна не магла нічога зрабіць, каб яе сыны ўцалелі.**

**— Ну, то кладзіся, — паклікаў бадзёра бацька. — Ты заўсёды марыла выспацца ўволю, ды не знаходзіла часу. Ідзі, адсыпайся за ўсе гады!**

**— Тут, мусіць, мура-ашкі, куды ты мяне прывёў?! — раздражнёна пракрычала яна, узыходзячы на коўдру.**

**— А-ей, як там і з'явіцца адна, то так цябе ўжо і з'есць адразу, думаеш? — пажурыў, як малую.**

**Маці села на коўдру, падабрала ногі пад сябе, шчыльна падаткнула з усіх бакоў спадніцай. Здаецца надта цвёрда, захацелася сесці лепш, ды ўспомніла, што не дома, дзе можна выбраць месца па густу, і роспачліва азірнулася. Дзікая глуш, усё незнаёмае, чужое. Нават птушкі пялі не так, як у Ліпніках. На бярозах моцна блішчала лісце, і ёй здавалася, што тут сыра. Маці ўздрыгнула. Было шкада да роспачы родных вуглоў, дзе пражыла чверць стагоддзя, выгадавала сыноў. Цяпер давядзецца па-цыганску жыць у глушы, да якой была зусім не прыстасавана. А калі і скончыцца ляснае жыццё, то хіба вернецца ранейшае? І ёй захацелася ўпасці і завыць.**

**А ў старога была прыдумана цэлая сістэма абучэння жонкі.**

**— Ну, Маня, цяпер паслухай, што скажу. Калі буду адыходзіць куды, то табе пакідаціму свой наган, — ён**

227

**дастаў з кішэні рэвальвер, які я яму падараваў. — Во, класці буду сюды, пад коўдру, каб ты магла яго адразу выхапіць...**

**Маці з абурэннем узняла вочы, успыхнула:**

**— Куды ты да мяне лезеш са сваім наганам? Я яго ў руках ніколі не трымала і не ведаю, як з яго страляюць!**

**Бацька чакаў такога звароту, са шчырай гатоўнасцю сказаў:**

**— Так гэта ж вельмі проста! Глядзі сюды, я табе яго зарадзіў. Во, аж сем патронаў, бачыш? — пакруціў барабан. — А цяпер адцягнеш толькі гэты фокус, наставіш на немца ці паліцая, тут націснеш, бац! — і ўсё! Няма тут нічога цяжкага. Нават можаш зараз паспрабаваць, патронаў шмат! На, бяры...**

**Маці рэзка, нібы змяю, адпіхнула крывую жалязяку, закрычала:**

**— Здурэў? Яшчэ такое паскудства буду браць у рукі, бачылі вы, людзі!**

**— Ы-ы-ых, ду-урная! — надта пакрыўдзіўся бацька і неахвотна запхнуў наган у кішэню.**

**Праз пару дзён Люба з Нікіцінай уцяклі ад хлопцаў да рэчкі наводзіць свае туалеты. Маці са збанком пайшла па ваду і спаткала дзяўчат. Разам з імі старыя перайшлі ў лагер.**

**ПРАЦЯГ БУДЗЕ**

228

---

# КІНО

**Праграма на 25—30. IV. 1966 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

„Trzy życzenia" (czeski), 25—26. „Mam 20 lat" (radz.), 27—28. „Syn skazańca" (angl.), 29—30.

**Кляшчэлі**

„Nieprzyjaciel u progu" (radz.), 25—26. „Witajcie, wstęp wzbroniony" (radz.), 27—28. „SOS na Pacyfiku" (angl.), 29—30.

**Дубіны**

„Casanowa znad Dunaju" (węgierski), „Nowy Gilgamesz" (węgierski), 29—30.

**Нарва**

„Ballada o dziewczynie" (wietnamski), „Inspektor Morgan prowadzi śledztwo" (angl.), 27—30.

**Нараўка**

„Późne popołudnie" (polski), „Człowiek I-go stulecia" (czeski), 27—30.

**Чыжы**

„Daleka jest droga" (polski), „Skarb" (polski), 27—30.

**Дубічы Царкоўныя**

„Bracia" (czeski), „Profesorek" (franc.), 27—30.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Wyższa zasada" (czeski), „Lekkoduchy i dziewczyna" (radziecki), 27—30.

**Орля**

„Człowiek z fotografii" (jugosłowiański), „Drewniany różaniec" (polski), 27—30.

**Райск**

„Gładka skóra" (franc.), „Biały szejk" (włoski), 27—30.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Najdroższa" (radz.), „Zdarzyło się to w Rzymie" (włoski), 27—30.

**Міхалова**

„Towarzysz Regend" (czeski), 25—26. „20 godzin" (węgierski), 27—28. „Ranny w lesie" (polski), 29—30.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Ktoś obok ciebie" (NRD), 25—26. „Człowiek z fotografii" (jugosł.), 27—28. „Koniec naszego świata" (polski), 29—30.

**Мілейчыцы**

„Przyroda i my" (radz.), 25—26. „Mandacik proszę" (franc.), 27—28. „Obok prawdy" (USA), 29—30.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Zakwitnie ziemia" (franc.), 25—26. „Małpia kuracja" (USA), 27—28. „Obrońca z urzędu" (angl.), 29—30.

**Шудзялава**

„Dwója z wychowania" (radz.), „Dwaj w stepie" (radz.), 27—30.

**Сідра**

„Mężczyźni na wyspie" (polski), 25—26. „Testament uczonego" (radz.), 27—28. „Olbrzym" (USA), 29—30.

**Сухаволя**

„Koniec naszego świata" (polski, „Jesienny dzień" (wietnamski, 27—30.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**

„Dramat w kosmosie" (radz.), „Irena do domu" (polski), 29—30.

**Ліпск**

„Całe złoto świata" (franc.), „Winda towarowa" (franc.), 29—30.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2.40 zł, kwartalnie — 7.20 zł, półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28.80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok i Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23, Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $ w Europie, 5 $ — w USA. Nakład 5458 Błk 1039 D-3




### МАНЮКА

**Казалі, апошні манюка сканаў...**
**А можа няпраўда? А можа мана?**
**То ж быў адмысловы, выключны пляткар.**
**Няўжо ўзяў з сабою ён рэдкі свой дар?**
**Бо гэтак маніў пры жыцці ён без меры,**
**Што нават і ў смерць яго нельга паверыць.**

**ГЕНАДЗЬ КЛЯЎКО**





**— Наш сусед унізе вельмі музыкальны — заўсёды стукае нам у такт.**

# А-ааа!

— Доктар!.. Доктар!.. Што рабіць? Дзіця безупынку крычыць.

— І даўно крычыць?

— Тры нядзелі... Як з радзільні прынеслі, так і закрычаў.

— Распавіце. Цяпер не крычыць?

— Не крычыць.

— Спавіце. Цяпер крычыць?

— Крычыць...

— Зразумела?

— Незразумела...

— Мілае дзяўчо, спавіваць трэба ўмеючы. Гэта вам дзіця, а не мяшок з бялізнай.

— А мы гэтага, доктар, у школе не праходзілі.

— І дарма... Я для будучых маці наладжваў бы экзамен: здала, можаш ісці радзіць, не здала — роды пераносяцца на другі год. Да пабачэння.

— Да пабачэння... Доктар, доктар!.. Ці не можаце вы за адным захадам вытлумачыць, чаму крычыць мой муж?

— Даўно крычыць?

— Паўтара года. Як шлюб узялі, так пачаў крычаць.

— Як корміце?

— Добра кармлю. Прыношу са сталоўкі.

— Самі варыць не можаце?

— Магу... Толькі я не прабавала.

— Мілае дзяўчо, карміць трэба ўмеючы. Гэта вам муж, а не скрынка для смецця. Да пабачэння.

— Да пабачэння... Доктар, доктар!.. Ці не можаце вытлумачыць, чаму крычыць бацька мужа, калі я яму нагавіцы пачынаю гладзіць?

— А дзе ў нагавіц найлепш складка атрымліваецца: спераду ці ззаду?

— Збоку...

— Мілае дзяўчо, гэта ж бацька мужа, а не цыркавы клоўн. Да пабачэння.

— Да пабачэння... Доктар, доктар!.. Чаму крычыць суседка, калі мая чарга падмятаць панадворак?

— А як вы падмятаеце: на сябе ці ад сябе?

— На яе...

— Да пабачэння...

— Да пабачэння... Доктар, доктар!.. А чаму крычыць...

— А-а-аа — ааааа...

— Доктар, што з вамі?

— Мне дрэнна...

— Зараз я вам акажу апошнюю дапамогу.

— А-а-а! Першую!

— Магчыма... Мы гэтага ў школе не праходзілі. Вось калі б вас трэба было пагабляваць ці пабяліць... У нас у школе вучылі толькі габляваць і маляваць.

— А-аа — ааааа...

— Доктар, што вы на мяне крычыце?

— Я не на вас крычу... Я крычу на Міністэрства асветы, копія крыку ў газеты, копія ўсім зацікаўленым асобам... А-ааа...

*Фелікс Камаў*

### ВУЗЯЛОК НА ПАМЯЦЬ

Размаўляюць два хлопчыкі.

— Што гэта за вузялок у цябе на насоўцы?

— Гэта маці завязала, каб я не забыў кінуць пісьмо ў скрынку.

— Ну, і ты кінуў?

— Не. Маці забыла даць мне пісьмо.

### ЗВЫШ МЕРЫ

— Прывітанне, Пятро! Чаго ты такі сумны?

— Крыўдна мне. На дзве мінуты спазніўся на поезд.

— А скорчыў такую фізіяномію, быццам спазніўся прынамсі на дзве гадзіны...

### ПРАГРЭС

Урач-псіхіятр, вярнуўшыся з адпачынку, распытвае аб стане здароўя некаторых хворых:

— ...А як той, што ўяўляў сябе Луі XIV?

— Яму значна лепш — цяпер ён лічыць сябе ўжо Луі XII.

### КАРАЦЕЛЬКІ

**АПАЛОНІК**

Пад рыбу цэлiў,
задавака,
Аж покуль жабай
не заквакаў.

**МУЗЫЧНЫ ПЕНЬ**

Ля Пня канцэрт
валі звяры —
І Пень быў выбран
у журы.

**ЧАЙНІК**

Шыпіць на іншых
дужа многа,
Як дапякуць
яго самога.

**Сымон Блатун**

### ДАКЛАД

Мядзведзь пазваніў ваўку. Папрасіў выступіць з дакладам перад янотамі.

— Будзе зроблена!

Дарэмна яноты правялі вечар на паляне. Захварэў барсук — памочнік ваўка. А ён якраз пісаў шэраму даклад.

*М. Сергіевіч*

### ВЕТЛІВАСЦЬ

— Навошта ты ўдарыў свайго маленькага брата?

— Мне стала сумна гуляць з ім, а ён усё не хацеў ісці дадому.

— Дык ты ж мог сказаць яму, каб ён ішоў дадому.

— Але, тата, гэта было б нветліва!

### ПАШАНЦАВАЛА

— Я чуў, што ты быў у Афрыцы. Ці многа было цікавага?

— О, вядома! Я нават удзельнічаў у паляванні на львоў?

— Ну і як? Пашанцавала?

— Яшчэ б! Ніводнага не сустрэў.

### ПРАНІКЛІВАСЦЬ

*— Ведаеш, дарагая, я ніяк не магу зразумець гэтую Паўловіч. Яна не бачыць у сваіх дзецях ніводнага недахопу.*

*— Што зробіш? Такія ўсе маці.*

*— Як ты можаш так гаварыць? І я маці, але калі б у маіх дзяцей быў хоць адзін недахоп, я адразу заўважыла б.*

### ДЗЕЯСЛОЎ

*— Ірына, што за часціна мовы «сёння»?*

*— Гэта дзеяслоў.*

*— Тады ўтвары мінулы час ад гэтага «дзеяслова».*

*— Калі ласка: «Учора».*



Хто капае яму другому, сам сабе ўзводзіць надмагільны помнік.

# УСЯЧЫНА



Усё людскае нам не чужое...

Кур'ёзы

**ЦІКАВАЯ ПРАПАНОВА**

Нейкі Сміт, які жыве ў Нью-Йорку, на Пятай авеню, памылкова атрымаў пісьмо, адрасаванае яго цёзку з Шостай авеню. У пісьме была катэгарычная прапанова: «Калі вы на працягу трох дзён не вышлеце па адзначанаму адрасу 10 тысяч долараў, ваша жонка будзе ўкрадзена і забіта».

Сміт, які атрымаў пісьмо, адразу ж адказаў: «Я не той Сміт, але дазвольце паведаміць, што Ваша прапанова мяне вельмі зацікавіла».

**НЕАБХОДНЫЯ ЗАХАДЫ**

Будынак брытанскай палаты абшчын вядомы сваімі пастаяннымі скразнякамі. Нядаўна нехта з дэпутатаў патрабаваў устанавіць у парламенце падвойныя рамы. Адна лонданская газета з гэтага выпадку ўедліва пісала: «Грымаючы пад увагу вельмі нязначную большасць урадавай партыі, сапраўды рызыкоўна дапусціць, каб хто-небудзь з дэпутатаў-лейбарыстаў прастудзіўся і не прыняў удзелу ў галасаванні».

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе дзяўчат Ніны, Любы і Тані з вёскі Р., Сямяціцкага павета, змяшчаем беларускую песню:

## Штосьці мне вясною марыцца




*Штосьці мне вясною марыцца —*
*У жыцці такое здарыцца, —*
*Сэрца з сэрцам, знаю, стрэнецца,*
*Прыйдзеш ты, любоў, мне верыцца,*
*Прыйдзеш ты, прыйдзеш ты,*
*Прыйдзеш ты, любоў, мне верыцца.* (2 разы)

*Нізка долу нахілёная,*
*Шэпча вербіна зялёная*
*Па-над рэчкай быстрацечнаю...*
*Дачакаюся сардэчнага.*
*Ой, свайго, ой, свайго*
*Друга мілага, сардэчнага.* (2 разы)

*У цвеце сад, як запарошаны,*
*Прыйдзе любы мой, харошы мой, —*
*Нездарма мне сніцца, марыцца, —*
*У жыцці такое здарыцца,*
*Знаю я, знаю я,*
*Знаю я — такое здарыцца.* (2 разы)



— Глядзі, гэты вылупак ужо курыць!..



— Разам уцякаем?
— Не магу, я стражнік...